Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

**Выдавец:** Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**23 (583) 9 чэрвеня 2011 года**

Кошт свабодны.



**Мосар:** Радасць юбілейнай штогадовай сустрэчы супольнасці "Бэтэль Карытас"(Betel-Caritas) Віцебскай дыяцэзіі. *Працяг тэмы на стар. 11.*

## Верхнядзвінскі раён

# Ёсць у Верхнядзвінску віртуоз

■ Чэслаў Якубовіч

**Як самых дарагіх гасцей сустракалі ня-даўна ў Верхнядзвінску замежных удзельнікаў чарговага рэгіянальнага свята “Дзвіна – Двина – Daugava” з Прыбалтыкі і Расіі .**

Па добрай традыцыі ім уручылі сімвалы гасцінnасці і дабра - духмяныя караваі, якія выпеклі на мясцовым хлебазаводзе. Апошнім часам такія заказы ўсё часцей даручаюць мясцоваму майстру змены Кастусю Ларкову, які набыў нацыянальную вядомасць дзякуючы Інтэрнэту. Гэты малады хлопец стаў сапраўдным віртуозам у сваёй справе, яго цуда-караваі незвычайнага смаку ўпрыгожваюць нават лепшыя сталічныя крамы, не кажучы ўжо пра тое, што асобныя па спецзаказах вырабляюцца для спецыялізаваных выстаў. І такія жытнія цуды атрымоўваюцца так выдатна таму, што Кастусь – надзвычай таленавіты і захоплены прыгажосцю хлопец. Яго маці даўно працуе на хлебазаводзе, а цяпер і разам з сынам. Ён стаў тут кіраўніком пасля таго, як скончыў кулінарнае вучылішча ў абласным цэнтры, а потым атрымаў універсітэцкі дыплом у Магілёве па спецыяльнасці “Хлебапячэнне і кандытарскія вырабы”. Цяпер на мясцовым прадпрыемстве многія з задавальненнем... заказваюць сапраўдныя цудавырабы менавіта ў пекара Кастуся. А паспытаўшы іх смак, раяць зрабіць тое самае сваім сябрам і знаёмым. Гэты майстар шануе хлеб і ведае ўсе яго сакрэты, не цураецца свайго роднага, беларускага, але пакуль сваіх фірменных рэцэптаў выпякання хлеба і булак нікому не выдае.

## Полацкі раён

# Патрыярх гарадоў беларускіх

■ Кастусь Александровіч

**Па добрай традыцыі і сёлета масавыя ўрачыстасці з нагоды Дня горада Полацка былі прыгожымі, непадобнымі на іншыя і працягваліся не адзін дзень.**

Як-ніяк, а самы старажытны горад Беларусі адзначаў ужо 1149 гадоў свайго існавання. Нікога не пакінула абыякавым на прайшоўшых урачыстасцях шоу-выстава рэтра-аўтамабіляў. Шмат гараджан сабралася на цэнтральным праспекце імя Ф. Скарыны на галаканцэрце “Мой Полацк – мая памяць і гордасць”. Творчыя калектывы, літаратары і музыканты выступалі і на іншых канцэртных пляцоўках горада, дзе багата помнікаў дзеячам нацыянальнай культуры і вуліцам вернуты імёны славутых продкаў замест прозвішчаў бальшавіцкіх дзячаў. На свяце ўзгадалі багаты гістарычны шлях горада, яго працоўныя дасягненні і ўшанавалі лепшых працаўнікоў. Пасля таго, як у неба на плошчы ўзвіўся сцяг Полацка, было названа імя чарговага ганаровага гараджаніна. Гэта званне стала сюрпрызам для ветэрана-будаўніка Пятра Цімашэнкі, які раней узначальваў ДБУ №2. За вялікі асабісты ўклад у развіццё роднага краю яшчэ пяць палачан атрымалі спецыяльныя медалі гонару “За заслугі перад Полацкам”. Глыбокай ноччу завяршыў свята горада велічны феерверк над Дзвіной.

## Браслаўскі раён

# Ледзь не згарэла фура

■ Станіслаў Раманчук

**У паўсядзённым жыцці, а тым больш на дарогах многае вырашае выпадак і шэраг іншых акалічнасцей.**

Вось і ў Браслаўскім раёне днямі каля апоўначы на аўтадарозе на Мёры раптам загарэлася кабіна літоўскага грузавога аўтамабіля “Вольва” з грузам мэблі ў прычэпе. На гэтай фуры прыватнай аўтафірмы з Клайпеды тавар павінен быў быць дастаўлены ў расійскую сталіцу. На шчасце, гэты эпізод з палаючым аўто ўбачыла праязджаўшая мясцовая жыхарка і адразу паведаміла аб здарэнні па мабільным тэлефоне ў Браслаўскі райаддзел МНС. Выратавальнікі прымчалі на месца інцыдэнту каля вёскі Рубеж даволі хутка, праз 7 хвілін, бо ехаць было недалёка, усяго 11 кіламетраў. Літоўскі вадзіцель у гэты момант працягваў самастойна змагацца з полымем каля гарэўшай машыны. У гэты час у стане шоку ён і не ўсведамляў, што і сам даволі сур’ёзна абгарэў. Потым медыкі вызначаць, што ў кіроўцы было пашкоджана каля 30 працэнтаў твару, ног і рук. З такімі тэрмічнымі апёкамі яго прыйшлося даставіць на машыне “хуткай дапамогі” ў райбальніцу для лячэння. Са сваёй задачай беларускія пажарныя справіліся паспяхова, за некалькі хвілін яны спачатку лакалізавалі, а потым і ліквідавалі узгаранне. Па першапачатковай ацэнцы, прычынай гэтага інцыдэнту з грузавіком стала кароткае замыканне электраправодкі. Каштоўны груз мэблі быў выратаваны і праца людзей не прапала.




# Лічба нумара

**200$** - прыкладна на столькі долараў, па дадзеных статыстыкі, упала сёлета ў Беларусі ўсяго за 5 месяцаў сярэдняя заработная плата. Аб шырока разрэкламаваных раней 500 USD у месяц трэба забыцца. Ужо немагчыма маўчаць аб складанасцях бягучай эканамічнай сітуацыі ў краіне на фоне праведзенай у нас рэкорднай у свеце дэвальвацыі і дастаткова высокай інфляцыі. Самае сумнае, што большасць суседзяў вакол нас даволі паспяхова пазбаўляюцца складанасцей сусветнага фінансавага крызісу. А ў нас толькі пачаўся перыяд сур’ёзных цяжкасцей і падзення жыццёвага ўзроўню.

Як доўга ён будзе доўжыцца, ніхто не можа сказаць, а намеснік міністра эканомікі Андрэй Тур у парламенце прызнаў праблемы і аб’явіў, што да канца года, калі сітуацыя стане стабільнай, рост цэн можа скласці 33-39 %. Як вынік, колькасць малазабяспечаных жыхароў падвоіцца з 5,2 % цяпер да 10 % агульнай колькасці беларусаў, якім элементарна цяжка будзе наогул звесці канцы з канцамі. Пры гэтым лёгкіх рэцэптаў выхаду з крызісу не існуе. Невыпадкова агучана, што да канца года ўзровень заробкаў бюджэтнікаў будзе замарожаны, большае нарошчванне грашовай масы можа прывесці краіну да банкруцтва.

Праўда, усё ж будзе запушчаны механізм індэксацыі, які можа дасягнуць 130-170 тыс. рублёў у месяц усім катэгорыям работнікаў бюджэтнай сферы. Зразумела, такія сумы толькі часткова кампенсуюць страты ад рэзкага росту цэн. Жахліва стала заходзіць у магазіны і бачыць новыя цэны не на імпартныя тавары, а, да прыкладу, на беларускія тэлевізары і халадзільнікі, газавыя пліты, морапрадукты, на якія такія айчынныя вытворцы, як “Атлант”, “Гарызонт”, “Гефест”, “Санта Брэмар” і іншыя паднялі цэны на 70-80 %. Пытанні цэнаўтварэння сталі абмяркоўвацца на ўсіх узроўнях, паспрабавалі запусціць адміністрацыйны рэсурс і прыгразілі ў гандляроў адбіраць ліцэнзіі і нават садзіць у турму.

Іншая справа, што лібералізацыю цэнаўтварэння ніхто адмяніць не ў стане, бо ў адваротным выпадку зусім хутка можам атрымаць пустыя прылаўкі і таварны дэфіцыт. А тым часам у Беларусі напрыканцы мая ў чарговы раз былі павышаны цэны на бензін і на дызельнае паліва на 20-24 % у сярэднім, бо не ўдавалася выйсці на стабільную работу “Нафтану” і Мазырскаму НПЗ, а некаторыя АЗС сутыкнуліся з недахопам бензіну АІ-92, бо і на яго быў зафіксаваны ажыятажны попыт. Было таксама вырашана прадаваць паліва на прыгранічных АЗС замежным кіроўцам выключна за валюту.

Таксама напрыканцы вясны беларусы скуплівалі актыўна цукар (зноў падаражэў, перад гэтым продаж яго павялічыўся ў 4 разы), соль, воцат і запалкі. Вось да якіх наступстваў прывяла трывожная сітуацыя на валютным рынку і па-ранейшаму адсутнасць долараў і еўра ў абменных пунктах. Таму па даручэнні ўладаў паўсюдна на месцах правялі маніторынг работы гандлю і дабіліся аднаўлення асартыментнага пералiку найперш харчовых тавараў. Складаней было выраўняць сітуацыю з бытавой тэхнікай, бо заводы не маглі адразу выканаць заяўкі ўсіх гандлёвых арганізацый.

Адначасова “імем рэвалюцыі” паспрабавалі знізіць гандлёвыя надбаўкі. Прыклад усім падала беларуская сталіца, дзе за выхадныя яны знізіліся на 43 групы тавараў у сярэднім на 5-20 %. З іншага боку, з пачатку лета ў Беларусі стаўка рэфінансавання ў банках з улікам росту цэн зноў вырасла да 16 % гадавых, адразу на 2 пункты. Увогуле, ці можна лічыць такія крокі пачаткам нейкай стабілізацыі? Наўрад ці наступіць паляпшэнне сітуацыі, бо няма ў нас антыманапольнага заканадаўства і гандлёвым работнікам таксама трэба жыць, атрымоўваць зарплату, плаціць падаткі, арэндную плату.

Насельніцтва сёлета яшчэ чакае павышэнне камунальных плацяжоў напярэдадні ацяпляльнага сезону. З іншага боку, на вышэйшым узроўні абвінавацілі ў пагаршэнні сітуацыі на спажывецкім рынку сам народ і розныя замежныя і айчынныя “нячэсныя” СМІ. Абстаноўка ў пачатку лета сур’ёзна пагоршылася, была трывожнай, і відавочна, што абгрунтаванай і дэтальнай праграмы па выхаду беларускай эканомікі з крызісу не было прапанавана. А стабілізацыя ў нашай краіне калі і наступіць, то на больш нізкім узроўні.

## Надвор’е ў Глыбокім www.rp5ru

| | чацвер 09.06.11 | | | | пятн. 10.06.11 | | | | сб. 11.06.11 | | | | нядз. 12.06.11 | | | | пн.13.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +17 | +21 | +26 | +22 | +15 | +20 | +24 | +22 | +16 | +20 | +22 | +22 | +16 | +21 | +24 | +22 | +17 | +15 | +13 |
| Ціск, мм | 743 | 743 | 742 | 741 | 741 | 741 | 740 | 740 | 740 | 740 | 740 | 740 | 740 | 740 | 739 | 739 | 738 | 737 | 738 |
| Вільготнасць, % | 74 | 64 | 38 | 49 | 79 | 69 | 49 | 64 | 94 | 83 | 63 | 70 | 96 | 76 | 50 | 72 | 94 | 100 | 95 |
| Вецер м/сек | В 5 | В 5 | В 5 | С-В 6 | В 4 | С-В 4 | С-В 4 | В 4 | С-В 4 | С-В 3 | С-В 4 | В 4 | С-В 2 | С-В 2 | С-В 3 | С 1 | З 3 | З 4 | С-З 4 |

## Дзень за днём

**Адмоўнае сальда знешняга гандлю Беларусі за трэць года вырасла да "рэкордных" 3,75 млрд. USD, што на 85,3 % болей, чым было ў студзені-красавіку 2010 года. Да пачатку лета рост цэн у РБ перавысіў 15 %, што ў 2 разы болей гадавога прагнозу інфляцыі на 2011 год. Беларускі лідар абвінавацiў народ, што ён сам стварае ажыятажны попыт. Многія аналітыкі прыходзяць да высновы, што згубленыя крайнай гады адсутнасці рынкавых рэформ усё ж набліжаюцца да свайго заканчэння. Беларуская эканоміка працавала вынікова датуль, пакуль умовы набыцця энерганосьбітаў з Расіяй былі выгадныя.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сербія.** Пасля 10 гадоў вышуку спецслужбы затрымалі генерала Ратку Младзіча, на сумленні якога гібель 200 тысяч харватаў і мусульман падчас этнічных чыстак на вайне.

**Бельгія.** Вярхоўны прадстаўнік ЕС па знешняй палітыцы К. Эштан запатрабавала неадкладнага вызвалення і рэабілітацыі ўсіх 43 асуджаных за падзеі на плошчы ў Мінску.

**Германія.** Еўрапейскі банк ЕБРР адмовіўся ад раней запланаваных інвестыцый у Беларусь, заявіў аб спыненні ўсялякай фінансавай і тэхнічнай дапамогі яе кіраўніцтву.

**ЗША.** Эксперты "Голаса Амерыкі" пацвердзілі, што крызіс у РБ – самы сур'ёзны з 1991 года, яго справацыраваў непамерны для яе эканомікі рост зарплат перад выбарамі.

**Францыя.** Удзельнікі саміта G8 краін "вялікай васьмёркі" выказаліся за тое, каб прыняць у 2011 годзе Расію ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, куды раней увайшла Украіна.

**Расія.** Аналітыкі кампаніі "ВТБ Капітал" спрагназавалі далейшы рост цэн у РБ на 51 %, сур'ёзны крызіс з-за дэфіцыту плацежнага балансу на ўзроўні 16 % ад ВУП, абвал рубля.

**Егіпет.** Былы дыктатар краіны Х. Мубарак і двое яго сыноў пайшлі пад суд за загад забойства больш за 840 егіпцян і раненні яшчэ 6 тысяч чалавек падчас хваляванняў зімой.

**Ізраіль.** Урад краіны катэгарычна адхіліў прапановы кіраўніцтва ЗША і Еўрасаюза аб вяртанні яе граніц у межах да 1967 года, чаго даўно дабіваецца Палесцінская аўтаномія.

**Украіна.** Экс-прэм'ер Ю. Цімашэнка падала ў міжнародны суд на праўрадавую кампанію "РасУкрЭнерга", рэйтынг правячай Партыі рэгіёнаў і прэзідэнта В. Януковіча рэзка ўпаў.

**Германія.** Аб'яднаная Еўропа зараз, адзначыў глава нямецкага МЗС Гвідо Вестэрвеле, павінна ўдзяляць увагі падзеям у Беларусі не менш, чым узрушэнням у Афрыцы.

**Грузія.** За ўдзел у несанкцыянаванай акцыі пратэсту і супраціўленне паліцыі амаль 90 чалавек атрымалі па 2 месяцы зняволення, завядзена і шэраг крымінальных спраў.

**Казахстан.** Кіраўнік РБ на сустрэчы са студэнтамі прызнаў наяўнасць крызісу, расказаў, што спіць з тэлефонамі на тумбачках, потым прымае даклады, чытае, аналізуе.

**Літва.** З-за адсутнасці рэформ эканомікі ў Беларусі, заўважыў кіраўнік урада А. Кубілюс, пачаўся моцны крызіс, для простых беларусаў пачаліся вельмі складаныя гады жыцця.

**Германія.** Пасля шырокай грамадскай дыскусіі і катастрофы на АЭС Японіі правячая кааліцыя пагадзілася прыняць план закрыцця ўсіх нямецкіх АЭС да 2022 года.

**ААЭ.** Самы шматдзетны жыхар эміратаў 63-гадовы Аль Балушы вырашыў ажаніцца ў 18 раз і стаць бацькам 100 дзяцей, кожнай з былых 14 жонак пакінуў дом з прыслугай, аўто.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Экс-старшыня Нацбанка С. Багданкевіч заявіў, што ўрад краіны можа не ўтрымаць новы афіцыйны курс рубля , бо існуе вялікі дэфіцыт плацежнага балансу і інвестыцый.

**Мінск.** Урад РБ, як пацвердзіў нам. Міністра эканомікі Андрэй Тур, не плануе да канца года павышаць тарыфную стаўку 1-га разраду, будзе толькі індэксіраваць заробкі людзей.

**Салігорск.** Як і чакалася, ААТ "Беларуськалій" прадаў свой пакет з 340 тысяч акцый ЗАТ "Міжнародная калійная кампанія" і не раскрыў падрабязнасці гэтай аперацыі.

**Мінск.** Чарговай, 15-й па ліку ахвярай тэракту ў метро стаў 37-гадовы ўрач бальніцы хуткай дапамогі Андрэй Ільін, у шпіталях сталіцы лячыліся яшчэ 7 моцна пацярпелых.

**Слуцк.** У парадку эксперыменту на тэрыторыі раёна Мінаблвыканкам на 2 летнія месяцы забараніў продаж танных пладова-ягадных він, прызвавых у народзе "чарнілам".

**Мінск.** На лекцыі ў БДЭУ эканаміст Сяргей Чалы сказаў студэнтам, што Нацбанк РБ стаў тэхнічным банкрутам, бо яго абавязацельствы перавысілі ягоныя ж активы.

**Мінск.** Акцёраў тэатра імя Я. Купалы Міністэрства культуры РБ не адпусціла на гастролі ў Вроцлаў (Польшча) па палітычных матывах на праходзячыя там Дні культуры Беларусі.

**Гомель.** З-за складанай дэмаграфічнай сітуацыі да новага навучальнага года ў вобласці закрыюць яшчэ 16 школ у сельскай мясцовасці, а 7 устаноў будуць рэарганізаваны.

**Мінск.** У сталіцы ў чарзе на жыллё стаіць 280 тысяч сем'яў, што ў 3 разы болей, чым у часы БССР, улады пачнуць маштабна рассяляць іх у новабудоўлях побач з Калодзішчамі.

**Ельск.** Моцны разрад маланкі на пашы каля вёскі Кочышчы забіў 17 дойных кароў мясцовага калгаса, пастухі не пацярпелі, тушы жывёл хуценька завезлі на мясакамбінат.

**Мінск.** Трое экс-кандыдатаў у прэзідэнты былі асуджаны сурова: на 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму А. Саннікаў, 5,5 – Д. Ус, цяпер інвалід 2 групы, і на 6 – М. Статкевіч.

**Пухавічы.** У спіс неўязных у ЕС уключылі дырэктара Талькаўскай СШ Н. Меркуль за звальненне па палітычных матывах калегі, у гэтым "чорным" спісе стала ўжо 188 чалавек.

**Мінск.** Католікам сталіцы ўлады спачатку забаранілі духоўнае шэсце на ўрачыстасцях Божага цела па іх традыцыйным маршруце па праспекце Незалежнасці.

**Гомель.** За рэгулярнае атрыманне хабару ад навучэнцаў суд пакараў 4,5 і 5 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці мужа і жонку, былых выкладчыкаў дарожна-будаўнічага каледжа.

**Мінск.** Міністра фінансаў РФ А. Кудрына газета "СБ. Беларусь сегодня" абазвала "сатрапам", "фантамасам, які разбушаваўся" за яго пазіцыю па выдзяленні РБ крэдыту.

# Беларусь атрымала крэдыт ЕўрАзЭС, здабудзе яшчэ 800 мільёнаў на наступным тыдні




■ Сяргей Гезгала; цыт. БелаПАН

Міністры фінансаў краін ЕўрАзЭС на пасяджэнні ў Кіеве 4 чэрвеня ўхвалілі выдзяленне Беларусі крэдыту з антыкрызіснага фонду гэтай арганізацыі. Кудрын: прыватызацыя застаецца ўмовай.

«Пасля прыняцця рашэння прэм'ер-міністр РФ Уладзімір Пуцін у тэлефоннай размове са сваім беларускім калегам Міхаілам Мясніковічам інфармаваў яго аб дэталях прынятага рашэння, а таксама абмеркаваў з ім розныя нюансы рэалізацыі беларускай стабілізацыйнай праграмы і расійска-беларускага супрацоўніцтва ў гэтым кантэксце», — адзначыў Пяскоў.

Як заявіў віцэ-прэм'ер, міністр фінансаў РФ Аляксей Кудрын, крэдыт даецца на 10 гадоў па плаваючай стаўцы 4,1% гадавых.

Паводле яго слоў, прыватызацыя беларускіх актываў на 7,5 млрд. даляраў на працягу трох гадоў засталася адной з умоў прадастаўлення Мінску крэдыту.

«Асноўным фактарам прытоку капіталу з'яўляецца прыватызацыя, таму ёсць і прыватызацыйныя ўмовы, яны звязаны з тым, каб на працягу трох гадоў прыватызаваць маёмасць на суму 7,5 млрд даляраў — па 2,5 млрд у год.

Гэта ўмова, безумоўна, захаваецца», — сказаў Кудрын.

Кудрын адзначыў, што на радзе Антыкрызіснага фонду прынялі да ведама ліст, дасланы ўрадам Беларусі і Нацыянальным банкам, аб мерах палітыкі на бліжэйшыя тры гады.

«Хачу звярнуць увагу, што ніхто не просіць праводзіць прыватызацыю па заніжаных цэнах, па-за конкурсам, гэта павінна ажыццяўляцца згодна з прызнанымі ў свеце працэдурамі», — адзначыў Кудрын.

Акрамя таго, ён дадаў, што для сябе Расія вызначыла памер штогадовай прыватызацыі на ўзроўні $10 млрд. Пры гэтым гаворка ідзе аб прыватызацыі «першакласных актываў». Да гэтых актываў ён аднёс долі дзяржавы ў ВТБ, Ашчадбанку, Саўкамфлоце, «Раснафце».

На гэтым тыдні Беларусь апублікавала план выхаду з валютна-эканамічнага крызісу, які не ўтрымоўваў мер, вылучаных Расіяй у якасці ўмовы атрымання крэдыту, у тым ліку праграмы прыватызацыі. У ім фігураваў толькі рост цэнаў і абмежаванне інвестыцый.

Пазыка дазволіць Нацбанку спаталіць валютны голад у Беларусі. Можна чакаць некаторага росту курса рубля і ажыўлення на фінансавым рынку краіны.

Тым не менш, Мінску не дазволяць выкарыстаць крэдыт цалкам на стабілізацыю курса рубля. Як сцвярджаюць Naviny.by, адной з умоваў выдзялення крэдыту стаў рост валютных рэзерваў Беларусі. Гэта значыць, атрыманыя сродкі лягуць у запасы.

Беларусь звярнулася таксама за крэдытам да Міжнароднага валютнага фонду. У МВФ Беларусь просіць ад 3,5 да 8 мільярдаў даляраў. Па атрыманні абодвух гэтых крэдытаў агульная замежная запазычанасць краіны можа дасягнуць 100% ад ВУП, што азначае крытычны ўзровень для беларускай эканомікі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пасля забароны на цэлы год гандляваць рапсавым маслам з ЕС з-за дэфіцыту ў РБ маслаэкстрацыйны завод сёлета працуе са стратамі, скончылася і сыравіна для працы.

**Орша.** Падчас месячніка ахovы працы на мясакамбінаце ў пажары загінулі 4 рабочыя, сёлета на Віцебшчыне на вытворчасці адбылося 16 здарэнняў са смерцю людзей.

**Наваполацк.** Сярод 37 стратных прадпрыемстваў вобласці найгорш у 1-м квартале года спрацаваў ААТ "Нафтан", на яго долю прыйшлося 205,6 млрд. рублёў страт (88,3 %).

**Віцебск.** На грані банкруцтва апынуліся прыборабудаўнічы завод і тэлезавод "Віцязь", Міністэрства прамысловасці РБ рыхтуе экстраны план выратавання ад поўнага занападу.

**Полацк.** З-за неасцярожнасці з агнём адразу 3 іншамаркі (WV-Pola, BMW-320 і Opel-Rekord) жыхароў вёскі Новыя Гараны згарэлі ноччы ў блоку гаражоў з дошак.

**Браслаў.** Жыхароў раёна парадавала, што пагадненне аб малым прыгранічным руху з Латвіяй і Літвой пачне дзейнічаць пасля 1 ліпеня, як пацвердзіў Дзяржпагранкамітэт РБ.

**Віцебск.** Па праграме тэхпераўзбраення на мясакамбінаце запусцілі новую сучасную пельменную лінію, нямецкую - па выпуску безабалонкавых каўбас і ўпакоўкі "флоўпак".

**Наваполацк.** Самым папулярным у горадзе стаў магазін гандлёвай сеткі "Еўраопт" пасля зніжэння на 5 % цэн на ўсе групы тавараў.

**Лепель.** Пры правядзенні меліярацыі ля вёскі Дражна рабочыя знайшлі буйны склад боепрыпасаў аэрадрома часоў 2-й сусветнай вайны, было знішчана каля 1500 авіябомб.

**Орша.** Прадстаўнікоў ААТ "Віцебсклён" запрасілі ў Швейцарыю, дзе 11 ліпеня ім уручаць у Жэневе міжнародны прыз "За якасць" прадукцыі і залаты медаль.

**Віцебск.** Драмтэатр імя Я. Коласа страціў на 71-м годзе жыцця заслужанаю артыстку РБ Людмілу Пісараву і адзначыў 70-годдзе пастаноўкі брэндавага спектакля "Несцерка".

**Полацк.** У дзяржуніверсітэце адкрылі віртуальны філіал Рускага музея, цэлых 200 экскурсій на электронных носьбітах з праглядам у медыяцэнтры ў сучасным фармаце 3 D.

**Паставы.** Мэблевы цэнтр пачаў укладку на сваім стадыёне ПМЦ новага футбольнага поля з падагрэвам і штучным газонам апошняга пакалення, такіх у Беларусі толькі 2.

**Орша.** У будынку былога калегіума езуітаў і ля яго ўпершыню быў праведзены культурна-забаўляльны праект "Ноч у музеі. Назад у СССР".

**Віцебск.** На міжнародным музычным фестывалі "Славянскі базар" упершыню пройдзе свята славянскай кухні, сюды прыедуць клубы нацыянальнай кухні з раёнаў вобласці.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Праваслаўнага святара Канстанціна Жданава, забітага ў Дзісне бальшавікамі, абвесцілі святым



Нагадаем нашым чытачам, што нядаўна ў «Вольным Глыбокім» (№№16,17 за 2011 г.) быў змешчаны вялікі матэрыял Фадзея Шымуковіча «Отец Константин Жданов», прысвечаны біяграфіі і абставінам трагічнай гібелі праваслаўнага святара Канстанціна Жданава.

І вось новы радок у тэме: 4 чэрвеня гг. да ліку святых быў урачыста далучаны айцец Канстанцін Жданаў.



■ **Кастусь Шыталь**

Праваслаўная царква кананізавала яшчэ аднаго святара-пакутніка, загінуўшага ад рук камуністаў. 4 чэрвеня ў царкве Уваскрасення Хрыстова ў Дзісне да ліку святых быў урачыста далучаны айцец Канстанцін Жданаў, закатаваны бальшавікамі летам 1919 года.

Літургію і абрад кананізацыі ўзначаліў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел амаль усе беларускія праваслаўныя епіскапы. Вернікаў, якія прыйшлі на кананізацыю, было столькі, што яны не змясціліся ў царкве.

Канстанцін Жданаў нарадзіўся ў 1875 годзе ў Шаркоўшчыне. У 1900 годзе стаў праваслаўным святаром. Пад яго кіраўніцтвам у 1908-1912 годзе была збудаваная Свята-Успенская царква ў Шаркоўшчыне. Айцец Канстанцін выкладаў Закон Божы ў мясцовых школах, быў заснавальнікам прытулка для бедных. Мясцовае насельніцтва вельмі паважала святара за яго пастырскую дзейнасць.

У 1919 годзе Дзісненскі павет быў ахоплены тэрорам, які разгарнулі бальшавікі. Айца Канстанціна Жданава арыштавалі пасля Літургіі і даставілі ў Дзісну. Там святара збілі да непрытомнасці і жывога закапалі ў зямлю. Пасля сыходу бальшавікоў вернікі перапахавалі цела айца Канстанціна пад алтаром Свята-Адзігітрыеўскай царквы ў Дзісне. У 2008 годзе рэшткі былі эксгумаваныя, і пасля кананізацыі будуць знаходзіцца ў адмысловай рацы ў Свята-Уваскрасенскай царкве.



Праваслаўны святар Канстанцін Жданаў

# Беларуская дзяржава знікне без беларускай культуры, лічыць пісьменнік Уладзімір Арлоў

**Беларуская дзяржава знікне без беларускай культуры. Такое меркаванне выказаў БелаПАН 4 чэрвеня на ўрачыстым адкрыцці «Дрэва Паэзіі» ў вёсцы Крэва (Гродзенская вобласць) беларускі пісьменнік Уладзімір Арлоў.**

«Нам трэба думаць пра будучыню беларускай культуры, якой не будзе без беларускай мовы, - сказаў ён. А без беларускай культуры і мовы, у рэшце, не будзе беларускай дзяржавы, яна знікне».

Беларуская дзяржава, на думку Арлова, не праяўляе ініцыятывы і не займаецца «прасоўваннем нацыянальнай культуры і літаратуры ў іншыя краіны, у свет».

Ён паведаміў, што дні беларускай культуры ў Вроцлаве (Польшча), з якіх пісьменнік толькі вярнуўся, «чарговы раз прадэманстравалі цікавасць да беларускай культуры, тэатра».

Арлоў таксама паскардзіўся, што ў свеце няма адмысловых Беларускіх інстытутаў, як, напрыклад, філіялы Польскага інстытута ці Інстытута імя Гётэ (Германія) ў розных краінах свету.

Сучасная беларуская ўлада, сказаў ён, «штучна ставіць бар'еры паміж творцамі літаратуры і яе чытачамі». «Я маю на ўвазе чорныя спісы, якія, як кажуць, з'явіліся пасля 19 снежня. Я хачу сказаць, што ў гэтым спісе новыя імёны, бо чорныя спісы былі створаныя ў 1996 годзе», - сказаў пісьменнік.

Паводле яго слоў, з тых часоў «у дзяржаўных выдавецтвах амаль не друкуюць (а ў апошнія гады зусім не друкуюць) тых, хто нават ніякага стаўлення да ўлады не выказвае, але, калі ён не дэманструе сваю лаяльнасць да яе, яго не выдадуць».

*Захар Шчарбакоў, БелаПАН.*



**Што адбываецца там, дзе вы цяпер, як выглядае крызіс і выхад зь яго, што мяняецца і што застаецца бязь зьменаў?**

# Летні фота- і відэаконкурс, сур'ёзныя прызы

Пераможцаў вызначае рэдакцыя штомесяц

Прысылайце свае здымкі (з кароткім апісаньнем — што? дзе? калі?) на адрас **radiosvaboda@gmail.com.** Рэкамэндаваны памер фотаздымка: 800 х 600 піксэляў, разьдзельнасьць – 72 dpi.

Патрабаваньні да відэа: максімальны хранамэтраж – 1 хвіліна. Калі памер вашага відэа перавышае 25 мэгабайтаў (дапушчальны памер файла для дасылкі на нашую электронную пошту), вы можаце запампаваць яго на любы файлаабменны сэрвіс (напрыклад, www.sendspace.com) і даслаць нам на пошту спасылку. Яшчэ адзін варыянт: калі маеце свой экаўнт на YouTube – запампоўвайце туды і дасылайце нам спасылку на **radiosvaboda@gmail.com.**

Дасылаючы здымак ці відэа на svaboda.org, Вы павінны ведаць, што фотаздымак ці відэа трапляе пад правілы Радыё Свабода. Здымак ці відэа не аплачваецца, мы пакідаем за сабой права скарыстацца яго на сайтах Радыё Свабода, а таксама ў іншых СМІ. Пры гэтым Вы захоўваеце аўтарскае права на здымак ці відэа, і мы пазначаем Ваша імя пад здымкам (відэа). Радыё Свабода не можа гарантаваць, што мы апублікуем усе вашыя здымкі (відэа). Пры адборы да публікацыі перавага даецца актуальным фота- і відэаздымкам падзеяў, людзей, сытуацый. Радыё Свабода захоўвае за сабой права рэдагаваць камэнтары да фота- і відэаздымкаў. Здымкі рэпартажнага характару павінны быць зроблены без ужываньня Фоташопу і іншых мантажных сродкаў і прыёмаў, якія скажаюць рэальную карціну.

ФОТАКОНКУРС

**Першы прыз і трохмесячнае падключэньне да хуткаснага Інтэрнэту ці 15 кг грэчкі.**

**Другі прыз — двухмесячнае падключэньне да хуткаснага Інтэрнэту ці 10 кг грэчкі.**

**Трэці прыз — аднамесячнае падключэньне да хуткаснага Інтэрнэту ці 5 кг грэчкі.**

# Браслаў : 11 чэрвеня – Дні сярэднявечнай культуры «Меч Брачыслава»

**11 чэрвеня ў Браславе адбудзецца фестываль сярэднявечнай культуры «Меч Брачыслава».**

*11 чэрвеня 2011 г. Браслаў*
*Замкавая гара.*
*У ПРАГРАМЕ:*

11.00-12.00. Продаж білетаў, знаёмства наведвальнікаў з пляцоўкай на Замкавай гары.

12.00-13.00. Шэсце клубаў-удзельнікаў па гарадзішчы. Прадстаўленне клубаў-удзельнікаў, майстроў, музыкаў, прадстаўленне рамесніцкай і археалагічнай пляцоўкі. Здабыча жывога агню. Урачыстае адкрыццё Фэсту.

Баявая праграма (можа мець невялікія змены менавіта у баявой частцы).

13.00-14.00. Турнір «Ратнае кола»(баявое спаборніцтва сярод вояроў IX-XIII стагоддзяў).

14.00-14.15. Выступленне гурта «Люташ».

14.15-14.35. Паказальныя баі сярод вояроў XIV-XV стагоддзяў.

14.35-15.05. Вандроўны тэатр лялек «Капялюш» - спектакль «Полацкая батлейка».

15.05-15.20. Выступленне гурта «Княжыч».

15.20-16.20. Баі на мосце (паказальныя баі сярод вояроў IX- XIII ст.).

16.20-16.40. Выступленне гурта «Люташ».

16.40-17.00. Бугурт (баі сярод вояроў IX- XIII ст.).

17.00-17.15. Выступленне гурта «Княжыч».

17.15. Падвядзенне вынікаў.

17.30. Канцэрт гурта «Тэстаментум тэрра».




**На працягу мерапрыемства будуць працаваць выставы:**

- «Рыцарскі шацёр» (мэбля, посуд, вопратка, пабытовыя прадметы, настольныя гульні);
- «Архаічныя музычныя інструменты»;
- Пляцоўка «Жывой археалогіі».

**Дэманстрацыя тэхналогій:**

- ткацтва на вертыкальных кроснах, іголкавага шыцця;
- апрацоўкі ільну, воўны, прадзення на верацяне;
- пляцення і ткацтва паясоў, пляценне сетак;
- гістарычнага пісьменства;
- ганчарства ранняга і сталага сярэднявечча; кансервацыі ганчарнага посуду;
- спіральнага пляцення, вырабу з бяросты;
- вырабу лыжак, карцаў, верацёнаў;
- вырабу галаўных убораў у тэхніцы валяння;
- апрацоўкі косці, адліўкі з металу, кавальства;
- неалітычная пляцоўка (апрацоўка косці, крэмяню, ляпная кераміка);
- дэманстрацыйны археалагічны раскоп.

# Рэзідэнцыя рымскага філосафа ў Мосары,

## альбо Беларускі лёс філосафа-мучаніка

**Гэтая гісторыя нагадвае захапляльны прыгодніцка-дэтэктыўны раман. Аднак усё тое было насамрэч...**

■ **Кс. Аляксей Юркайць,** *адміністратар парафіі Мосар,*
**Часлава Пачкоўская.**

**Заканчэнне**. *Пачатак у № 22 (582) за 2 чэрвеня 2011 года.*

### Радасць масарчан і развіццё культу

Падканец 90-х гадоў XIX стагоддзя царскія ўлады спрабавалі зліквідаваць мосарскую парафію і хацелі перабудаваць святыню на царкву. На пачатку XX стагоддзя царскі талеранцыйны загад дазволіў пэўныя паслабленні, а здабытая Польшчай незалежнасць прынесла рэлігійную вольнасць. Гэты чарговы перыяд значна паўплываў на ўзмацненне веры жыхароў мосарскай зямлі.

У міжваенны перыяд Мосар праслаўвіўся дзякуючы парафіяльнаму Адпусту, устаноўленаму Апостальскай Сталіцай на ўрачыстасць святога Яна Хрысціцеля. Пераадольваючы дзясяткі, а то й сотні кіламетраў людзі прыходзілі ў гэты дзень у Мосар, каб вымаліць праз заступніцтва святога Юстына Божыя ласкі. Воты падзякі, якіх было 38, былі змешчаныя каля алтара і сведчылі аб цудоўных аздараўленнях вернікаў. Але якраз у гэты час у дзеях, звязаных з рэліквіямі, наступіў чарговы нечаканы паварот гісторыі.

### Стары Мядзель патрабуе вярнуць рэліквіі мучаніка

На пачатку 20-х гадоў XX стагоддзя, пасля 90 гадоў адсутнасці, на парог святыні ў Старым Мядзелі зноў ступілі айцы кармеліты. У 1927 годзе кіраўнік кляштара кармелітаў айцец Браніслаў Ярасінскі звярнуўся да ксяндза арцыбіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага з просьбай "аб вяртанні пасярэбранай труны з рэліквіямі святога Юстына-мучаніка разам з вотамі, якія знаходзіцца ў парафіяльным касцёле ў Мосары. Бо гэтая святыня была ўласнасцю касцёла айцоў кармелітаў босых у Старым Мядзелі, як даказваюць сведчанні ўсіх вернікаў, запісы нашых хронікаў з кананічных візітацыяў мінскай дыяцэзіі". Падобную просьбу з амаль тысячай сабранымі подпісамі ў курыю Віленскай архідыяцэзіі дасылаюць старамядзельскія парафіяне.

Арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі скіраваў ліст да тагачаснага мосарскага пробашча ксяндза Станіслава Кліма з загадам вярнуць рэліквіі кармеліцкаму кляштару ў Старым Мядзелі. Трэба ўзгадаць, што гэтае паведамленне для парафіянаў у Мосары было як выбух снараду! Праз два дні да Мітрапалітальнай Курыі ў Вільні прыйшлі два вялікія лісты: адказ ксяндза пробашча і ліст уладальніка маёнтка Эдмунда Пілсудскага (праўнука графіні Ганны Грэбніцкай, дзякуючы якой рэліквіі апынуліся ў Мосары). Абодва прадстаўляюць ксяндзу арцыбіскупу свае аргументы для таго, каб рэліквіі засталіся ў мосарскім касцёле.

**«Нашчадкі фундатара пераказалі гэтыя рэліквіі ў Мосар на вечныя часы, і змяняць гэтага дыяцэзіяльная ўлада не можа»**

Пан Эдмунд Пілсудскі скіроўваецца да сваіх правоў як спадчыннік сямейнай памяткі-святыні, пішучы: "Гэтыя рэліквіі былі атрыманыя графам Антоніем Кошчыцам ад Святога Айца як асабісты падарунак пасля пілігрымкі да Рыма і знаходзіліся ў Мядзелі ў фундаваным ім касцёле айцоў кармелітаў у 1754 годзе. Праз 78 гадоў, пасля скасавання кляштару, Ганна з Кошчыцаў Грэбніцка, дачка Антонія Кошчыца і мая прабабка, звяртаючыся да факту, што рэліквіі – сямейная каштоўнасць, атрымала ад духоўных уладаў, як і таксама ад свецкіх дазвол на іх перавоз да касцёла ў Мосары, дзе сама была ў сваёй дачкі Барбары з Грэбніцкіх графіні Бжастоўскай, тагачаснай уладальніцы Мосара, і маёй прабабкі, пасля якой Мосар з'яўляецца маёй спадчынай.

Рэліквіі святога Юстына, якія вышэй узгадваю, знаходзяцца ў мосарскім касцёле ўжо 90 гадоў і ў вялікай пашане як нашай сям'і, так і многіх людзей не толькі каталіцкай, але і праваслаўнай веры. Дзякуючы рэліквіям касцёл і людзі добра абараніліся ад русіфікацыі і аправаслаўлення пасля Студзеньскага паўстання. Калі іх аддаць з нашай святыні, то гэта выклікае вялікае супрацьстаянне ва ўсёй ваколіцы, што з усіх бакоў вельмі непажадана. Са свайго боку мушу дадаць, што рэліквіі, традыцыйна захоўваючыся ў нашай сям'і, вельмі каштоўныя для нас, што не можам уявіць Мосара без іх. Без іх я б стаў дрэнным нашчадкам сямейнай традыцыі, як таксама і дрэнным жыхаром гэтай зямлі, калі б катэгарычна не запратэставаў супраць таго, каб забіралі рэліквіі да Мядзеля, а ў вачах мясцовых людзей – здрадцам. Звяртаюся да дакументу ксяндза біскупа Вацлава Жылінскага, які сведчыць, што рэліквіі былі асабістай уласнасцю Антонія Кошчыца, а таксама на пліту, умураваную ў касцёле як надмагілле Ганны з Кошчыцаў Грэбніцкай, памерлай у 1842 годзе".


D. O. M.
ANNA z KOSZCZYCÓW
HREBNICKA
HORODNICZYNA B. WDZ. WA POLOCKIEGO
ZSZŁA 30. WRZEŚNIA 1842. ROKU
Amen

**Мемарыяльная шыльда ў мосарскім касцёле св. Ганны, якая прысвечаная Ганне з Кошчыцаў Грэбніцкай.**



Ксёндз пробашч Станіслаў Клім прадстаўляе яшчэ іншы аспект справы, зазначаючы, што не ўсё так проста, як апісваюць айцы кармеліты: "Рэліквіі знаходзяцца не ў пасярэбранай маленькай труне, дзесьці набаку, але у пасярэбранай драўлянай труне вялікіх памераў, якая складае алтарную мэнсу галоўнага алтара і якая мае адпаведную канструкцыю. Ад 1838 года, ужо 90 гадоў, рэліквіі перад вачыма людзей, якія прывязаліся, з'ядналіся з імі, мошчы сталі іх гонарам і каштоўнасцю, як герб. Яны ў вялікай пашане не толькі ў мосарскіх парафіянаў, але і жыхароў далёкіх ваколіц нават на адлегласці больш за 100 кіламетраў. На працягу года рэліквіі наведваюць некалькі тысяч пілігрымаў, сярод якіх немалы адсотак ёсць праваслаўныя.

Усё разам узятае агарнае Мосар пэўным арэолам, пазбавіцца якога людзі без дзейснага пратэсту не дазволяць, разглядаючы гэта, як замах на іх найсвяцейшае права, а ведаючы культуру і нязломны дух на ўсходняй тэрыторыі Віленшчыны, гэты пратэст непажаданы, бо прынясе неспадзявяныя вынікі для касцёла ў цяперашніх умовах. Ужо ад восені мінулага года парафіяне час ад часу цікавіліся гэтай справай, а з іх словаў і пагрозаў можна зрабіць выснову, што ўсялякая спроба перавезці рэліквіі не прынясе вынікаў."

Што паўплывала на рашэнне ксяндза арцыбіскупа: можа, прыслухаўся да аргументаў, можа, баяўся незадавалення сярод вернікаў, а можа, прозвішча нашчадка адыграла неапошнюю ролю – цяжка сказаць. У адказе на ліст пробашча курыя паведаміла, што Адміністратыўная рада Дабротаў Віленскай Архідыяцэзіі пастанавіла: "пакінуць рэліквіі святога Юстына ў мосарскім касцёле." Пад тэкстам гэтага ліста была рэзалюцыя, напісаная блакітным алоўкам: "Нашчадкі фундатара пераказалі гэтыя рэліквіі ў Мосар на вечныя часы, і змяняць гэтага дыяцэзіяльная ўлада не можа" і падпісаная самім арцыбіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім. Гэтым сказам 21 жніўня 1928 года справа аб прыналежнасці рэліквій была скончана.

### Абаронца святыні і цвярдыні веры

Неўзабаве хутка настала новае ліхалецце – савецкія часы. Бог праз заступніцтва святога Юстына абараніў святыню. Яна не была зачыненай, вернікі плацілі вялізарныя падаткі, збіраліся на малітву, хоць і не было святара, і баранілі касцёл. Мосарскія парафіяне ўпэўнены, што "Святы Юстын апекаваўся нашым касцёлам!"

Зараз культ святога мучаніка адраджаецца, і шматлікія людзі, як каталікі, так і праваслаўныя, прыязджаюць у Мосар, каб памаліцца перад мошчамі. Асабліва ўшаноўваецца святы Юстын 1 чэрвеня, ва ўспамін гэтага святога ў Касцёле, а таксама і падчас парафіяльнага Адпуста святога Яна Хрысціцеля 24 чэрвеня, натоўпы пабожных людзей збіраюцца ў мосарскім касцёле, знаходзячы палёгку ў цярпеннях, здароўе, вызваленне ад алкагольнай залежнасці, Божую ласку і благаслаўленне, аб якіх прыходзяць прасіць святога Юстына.



**Касцёл св. Ганны ў Мосары ў канцы XIX ст.** *У той час над дахам касцёла ўзвышалася вежа з купалам і не існавала званіца ў правым куце муравананай агароджы.*



**Сям'я Пілсудскіх, апошніх уладальнікаў Мосара на фоне свайго разбуранага палаца, 1930-я гг.**

# У Бярэзінскім біясферным запаведніку прайшоў форум грамадскіх экалагічных арганізацый

**3 чэрвеня ў Бярэзінскім біясферным запаведніку распачаўся форум грамадскіх экалагічных арганізацый. Яго арганізатарамі выступілі вядучыя беларускія экалагічныя арганізацыі: экатаварыства «Зялёная сетка», «Ахова птушак Бацькаўшчыны», «Жывое партнёрства», «Цэнтр экалагічных рашэнняў», «Экадом» і «Экапраект «Партнёрства».**

Як паведаміла прэс-сакратар «Зялёнай сеткі» Ганна Сакалоўская, форум праводзіцца сёлета ў другі раз з мэтай узмацніць уплыў экалагічнай супольнасці, абмяняцца вопытам па актуальных экалагічных праблемах. У ім бралі удзел больш як 120 спецыялістаў у сферы экалогіі з Беларусі і іншых краін. У іх ліку прадстаўнікі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Міністэрства аховы здароўя, Міністэрства адукацыі, Праграмы развіцця ААН, Глабальнага экалагічнага фонду.

У праграме форуму пытанні захавання біяразнастайнасці, узаемасувязі здароўя і навакольнага асяроддзя, удзелу грамадскасці ў прыняцці экалагічных рашэнняў. Былі таксама абмеркаваныя магчымасці і перспектывы «зялёнай» эканомікі ў Беларусі.

Быў праведзены круглы стол «Усходняе партнёрства: магчымасці ўплыву і ўзаемадзеяння НДА з праграмамі ўрада Беларусі» і кліматычную ролевую гульню, падрыхтаваную на аснове рэальных перамоў па Кіёцкім пратаколе. Была таксама арганізавана прэзентацыя розных экапраектаў і семінары па актуальных пытаннях, такіх, напрыклад, як праца з валанцёрамі. Апрача таго, удзельнікі форуму змаглі паглядзець лятучых мышэй, якія жывуць у запаведніку, наведалі пляцоўку па маніторынгу парніковых газаў. Форум праходзіў да 5 чэрвеня.

*А. Янушэўская, БелаПАН.*

## Падзяка

Вялікае гора прыйшло ў нашу сям'ю. Пайшоў з жыцця наш любімы муж і татачка Міхайлоўскі Генадзь Уладзіміравіч. Выказваем вялікую падзяку ўсім людзям, якія на пакінулі нас адзін на адзін з бядой і аказалі маральную і матэрыяльную падтрымку. Асабістую падзяку хочацца выказаць урачам: Таццяне Уладзіміраўне Лынько, Пятру Валянцінавічу Васілевічу, медыцынскай сястры неўралагічнага аддзялення Вользе Трайкоўскай, а таксама Алене Бернардаўне Ерамёнак, Лідзіі Нікандраўне Пачопка, сям'і Маржэнковых, Дзмітрыю Кірылавічу Грыневічу, усім сябрам, суседзям і блізкім, хто падзяліў з намі боль гэтай страты. Вялікі дзякуй усім і нізкі паклон!



## Віншаванкі

*Веру Альбінаўну Хромаву*

**Віншуем з 60-годдзем!**

Всегда и грустно, и приятно
Свой день рожденья отмечать:
Уходят годы безвозвратно,
Их только успевай считать.
Но время, будто бы теченье,
Ничто не в силах удержать.
Тебе сегодня в день рожденья
Хотим мы счастья пожелать,
Удачи, радости, успеха,
Здоровой быть, беды не знать,
Преграды в жизни и помехи
Легко и быстро устранять,
Побольше смеха, меньше грусти -
И никогда не унывать.



*Дачка Вераніка і яе сям'я*



# На Дабрылаўцы масавы мор рыбы. Хто вінаваты?

■ Яўген Самсонаў

**На рэчцы Дабрылаўка, што ў Глыбоцкім раёне, здарыўся масавы мор рыбы.**

Атрымаўшы амаль адначасова інфармацыю з розных крыніц аб моры рыбы, аўтар гэтых радкоў адразу прыехаў у Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету.

– Для нас гэта ўжо не навіна,– кажа старэйшы інспектар А. Федзічкін, – мы яшчэ ўчора ведалі, пабывалі там, сфатаграфавалі і знялі на відэакамеру, прынялі адпаведныя меры. Створана спецыяльная камісія райвыканкама. Зараз паедзем на месца, будзем збіраць загінуўшую рыбу, падлічваць шкоду, якая прычынена прыродзе.

Аўтар гэтых радкоў самастойна абследваў рэчку Дабрылаўку ад Пятроўшчыны да Запруддзя. Апытаў некалькі дзясяткаў мясцовых жыхароў.

З фота бачна, якая карцінка намалёўвалася пад час абследавання. У Узрэччы рэчка хоць нейкая маркотная, але яшчэ жывая, а вось ад вёскі Бабічы да Запруддзя – мёртвая. Вышэй вёскі Запруддзе – жывая. Кампетэнтная камісія абавязкова ўстановіць прычыну забруджвання рэчкі і вінаватага ў гібелі рыбы.

Па папярэдніх дадзеных, з-за ліўневага дажджу, сцёкавая вада з цэха па перапрацоўцы малака ў вёсцы Запруддзе трапіла у рэчку Дабрылаўку.



Інспектары падлічваюць колькасць загінуўшай рыбы.





# Нават ноч не выратуе браканьераў ад пакарання

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслінага свету.*

**Пятніца, перадвыходны дзень, асноўная маса грамадзян плануе адпачынак, але толькі не супрацоўнікі міжраённай інспекцыі. Як паказвае аналіз працы, асноўная колькасць правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства здзяйсняецца менавіта ў перадвыходны дні і выходныя, і гэта не дзіўна.**

Глыбоцкі раён валодае значнымі воднымі і лясными рэсурсамі, што прыцягвае на нашы вадаёмы і ў лясы шмат адпачываючых грамадзян, рыбакоў-аматараў, ну і, вядома ж, браканьераў. Таму супрацоўнікі міжрайінспекцыі сумесна з іншымі прыродаахоўнымі, праваахоўнымі органамі ў такія дні працуюць ва ўзмоцненым рэжыме.

3 чэрвеня 2011 года ў 17 гадзін у Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслінага свету шматлюдна, прайшоў інструктаж рэйдавых груп, якія выбываюць у рэйд па спыненні і выяўленні браканьерства. Сумесна з інспектарамі ў рэйдавыя мерапрыемствы выязджаюць і супрацоўнікі Глыбоцкага РАУС, якія актыўна ўдзельнічаюць у такіх мерапрыемствах, бо падчас іх правядзення праяўляюцца не толькі парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, але і затрымоўваюцца вадзіцелі, якія кіруюць транспартам у стане алкагольнага ап'янення, асобы, якія здзяйсняюць крадзяжы дзяржуласнасці і шматлікія іншыя парушэнні.

Не паспела адна з груп выбыць у рэйд, як ад грамадзян была атрымана інфармацыя пра факт браканьерства на возеры Псуеўскае Глыбоцкага раёна. Не прайшло і паўгадзіны, як работнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі прыбылі на ўказаны вадаём. Арганізавалі ўтоенае назіранне і сталі чакаць. Над возерам стаў апускацца змрок, з'явілася лёгкая смуга і вось, як здань, на роўнядзі вады з'яўляецца лодка з двума рыбакамі. Але рыбакі гэта не простыя, а самыя што ні ёсць прамыславікі-сеткавікі. Вось сеткі ўсталяваны, засталося толькі дачакацца багатага ўлову, і браканьеры, выпіўшы для адвагі бутэлечку гарэлкі прама на вадзе, прыплылі да берага. Аднак браканьерам відавочна не шанцавала: самі трапілі ў сеткі інспекцыі. Каля 24 гадзін ночы супрацоўнікамі міжрайінспекцыі былі затрыманы 2 мясцовыя жыхары: грамадзянін Л., беспрацоўны, і грамадзянін В., які, дарэчы, працуе галоўным спецыялістам на адным з прадпрыемстваў г. Глыбокае. Затрыманы В. распавёў інспектарам усё як было, ды і адракацца няма куды, але пры гэтым адважна заявіў, што лавіў і будзе лавіць рыбу сеткамі. Мабыць, не ведае грамадзянін В., што ў выпадку паўторнага парушэння закона ён будзе прыцягнуты да крымінальнай адказнасці, і, магчыма, прыйдзецца яму вывучаць крымінальны і адміністрацыйны кодэкс больш дэталёва.

Другая рэйдавая група сумесна з супрацоўнікамі РАУС тым часам працавала на тэрыторыі Пастаўскага раёна. Сур'ёзных браканьераў не затрымала, але двух «п'яных» кіроўцаў удалося. Гэтак жа, як і аматараў памыць машыну ці заехаць з коламі прама ў возера.

Гэта толькі адзін вечар і ноч работы супрацоўнікаў міжрайінспекцыі, а такіх вечароў, на жаль, менш не становіцца.



Калі аўтар гэтага артыкула заканчваў пісаць матэрыял, у інспекцыю зноў паступіў сігнал, што на адным з вадаёмаў раёна браканьеры ўсталявалі сеткі, група неадкладна выехала для затрымання парушальнікаў, але гэта ўжо іншая гісторыя, пра якую напішам пазней.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства можна паведаміць па тэлефонах: 8-02156-286-70 «гарачая лінія», маб.тэл: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 (МТС).

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

13 – 19 чэрвеня 2011 г.



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Вызначана газеты. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае". Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 13 чэрвеня



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00** (с сурдопереводом), **15.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.05** Зона Х. Дорожные новости.
**07.30, 08.25, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** «Горожане»: Дакка (Бангладеш).
**09.10"Маргоша"**
**10.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Излечу себя сама».
**11.05 "Маруся. Возвращение"**
**12.10** Комедии **"Астерикс на Олимпийских играх"**
**14.15** OFF STAGE LIFE
**14.30** Nota Bene.
**15.15, 19.20** Новости региона.
**15.35** «Наталья Кустинская: черно-белая жизнь».
**16.30** «Случайные связи».
**17.10 "Маршрут милосердия"**
**18.00 "Маруся. Возвращение"**
**18.50, 01.20** «Зона Х»
**19.30** «Арена».
**19.55"Маргоша"**
**21.00** «Панорама».
**21.40** «Командировка».
**21.55 «Револьвер»**.
**00.05 "Доктор Хаус5"**
**00.55** «Проверка слухов».
**01.30** День спорта.

АНТ

**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** ОНТ представляет: «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Смак».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 "Любительница частного сыска Даша Васильева"**
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Тележурнал «Союз».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15 "Обручальное кольцо"**
**17.05 "Участок"**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Белорусский баскетбол. Секунды и годы».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** ОНТ представляет: Ток-шоу «Открытый формат».
**22.05** Премьера. **«При загадочных обстоятельствах».**
**00.10 "Крем"**
**01.00-01.30** Ночные новости.



**07.00** «ЛАДное утро».
**08.00** Телебарометр.
**08.05 "Ты моя жизнь"**
**09.05** Пра мастацтва.
**09.35** «Навіны надвор'я».
**10.00 "Универ"**
**11.10 «Хозяин морей: на краю земли»** (США).
**13.30** «Дети нового поколения». 11-е классы. Финал.
**14.50** Внеклассный час.
**15.05** «Час суда. Дела семейные».
**16.10** Врачебные тайны
**16.45** Врачебные тайны +.
**17.00** Битва экстрасенсов.
**18.00 "Ты моя жизнь"**
**19.05** «Хали-гали». Скетч-шоу.
**19.20** Молодежная комедия **"Высший бал"** (США-Германия).
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** КЕНО.
**21.25** Белорусское времечко.
**22.25 "Универ"**
**23.30** Битва экстрасенсов.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40 "Наши соседи"**. Сериал.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом«Секретно»: «Карма. Расплата за грехи».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** СТВ представляет: «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 "Огонь любви"**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.40** ПРЕМЬЕРА! «Кинопонедельник»: Екатерина Вилкова, Константин Крюков и Марат Башаров в фильме **«НА КРЮЧКЕ»**. Россия, 2011 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** ПРЕМЬЕРА! СТВ представляет: «Тайны рождения энергии».
**23.30** «Столичный футбол».
**00.00** «Тайны мира с Анной Чапман».



**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**7:40 "Час гонару"**: 33 серыя
**8:25** Чаму дэмакратыя? 2 серыя: «У пошуках рэвалюцыі»
**9:15** Прыватная калекцыя
**9:40** На колах
**10:10** "Каліф на гадзіну»
**10:35** МакраФон: «Канцэрт гурта «N.R.M.»: ч. 1
**11:30** Басанож па свеце
**12:00** Аб'ектыў
**12:05 "Выкупленне з Шаўшанку»**
**14:20 "Час гонару"**: 33 серыя
**15:10** Чаму дэмакратыя? 2 серыя: «У пошуках рэвалюцыі»
**16:00** На колах
**16:30** Эксперт
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 "Ранча Піковая Сямёрка»**: 8 серыя
**17:30 "Час гонару"**: 33 серыя
**18:15** Чаму дэмакратыя? 2 серыя: «У пошуках рэвалюцыі»
**19:10** Побач з намі
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Калыханка для самых маленькіх
**19:45** «Над Нёмнам»
**20:00** Еўропа сёння
**20:25** Вагон
**20:30** Эксперт
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прэс-экспрэс
**21:40 "Выкупленне з Шаўшанку»**
**23:55** Аб'ектыў



ПАНЯДЗЕЛАК, 13 чэрвеня

